
БУДЗЕМ ВУЧЫЦЦА І ПРА-
-ЦАВАЦЬ, КАБ
КАМУНІСТАМІ
ДОБРЫМІ СТАЦЬ


ЗА 5-КУ
Ў
4 ГАДЫ

БАЦЬКІ МЫ ПАТРАБУЕМ
АД ВАС
УДАРНАЙ
РАБОТЫ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

На 1 месяц . . 15 к.
На 3 м-цы . . 45 к.
На 6 м-цаў . . 90 к.
На 1 год. . 1 р. 80 к.

№ 11 лістапад 1931 г.

Адрас радакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## АКЦЯБРАТЫ

А. ЯКІМОВІЧ.

Мы аднагодкі
Будоўлі вялікае.
Нас пяцігодка
Да працы заклікала.

Будзем вучыцца
І працаваць,
Каб піонэрамі
Добрымі стаць!

Будзем змагацца
За справу мы Леніна.
Вырасьцем моцнай
Гартованай зьменаю.

Будзем вучыцца
І працаваць,
Каб комсамольцамі
Добрымі стаць!

Групай вясёлай,
Дружна, ахвотна
Шагаем мы ў школы,
Колгасы, заводы.

Будзем вучыцца
Жыцьцё будаваць,
Каб нам рабочымі
Добрымі стаць!

Дзеці працоўных,
Сьмела за намі!
Будзем усе мы
Будаўнікамі.

Дружна ў ногу,
Стройным атрадам
Роўнай дарогай
Шагай, акцябраты!

Трэба нам змалку
Сябе рыхтаваць,
Каб комуністамі
Добрымі стаць!

# МЫ—ШЭФЫ

Цэнтральны камітэт нашае партыі сказаў: трэба, каб у нас было як мага больш кароў, сьвіней, курэй, гусей, качак.

У куранят,
парасят
і цялят—

хто шэфы?

У куранят,
парасят
і цялят—

мы шэфы!

А што шэфы павінны рабіць?

Клапаціцца аб сваіх падшэфных.

Дамагайцеся, каб колгас і саўгас разводзіў больш кароў, сьвіней, птушак. А мы, акцябраты і ўсе малодшыя дзеці, будзем даглядаць куранят, парасят і цялят.





**Дзе будуць жыць зімою вашы куры?**

Зрабеце ачыстку ў куратніку. Пабялеце яго сьцены вапнай. Загатоўце ў запас пяску для курэй на зіму. Замажце ўсе шчылінкі, каб у куратніку было цёпла. Зрабеце паілку для курэй. (Як зрабіць паілку, чытай у гэтым нумары).

Разам з піонэрамі дапамажэце колгасьнікам уцяпліць на зіму хлявы, дзе жывуць цяляты, парасяты, ягняты.

Растлумачце ўсім колгасьнікам і аднаасобнікам, каб яны ня рэзалі на мяса маладой жывёлы.



# ХТО БОЛЬШ



**Апавяданьне М. МАРОЗА**

**Малюнкі САМАТЫЯ**

— Ціха, ціха, — крычала невялічкая група піонэраў.

Размовы сьціхлі.

— Давайце абгаворым, як уцягнуць нам больш дзяцей у групу акцябрат.

Барыс прапанаваў, каб кожны з акцябрат прывёў у групу па аднаму навічку.

— А можа хто і больш зможа?—адказвалі яму.

Выступіў невялічкі хлопчык Лёва, што ня дужа гаваркі быў, але зараз ён выступіў.

— Цяпер нашы бацькі на заводах спаборнічаюць, хто больш і лепш зробіць. Спаборнічаюць брыгадамі, цэх з цэхам, завод з заводам. Давайце і мы будзем гэтак працаваць.

Дзеці загулі. Спадабалася ім прапанова Лёвы.

На зборы пачалі прыходзіць навічкі. Але мала хто з іх наведваў зборы акуратна. Некаторыя прыходзілі адзін раз і больш ня прыходзілі.

Акцябраты хваліліся адзін другому: „У мяне ўжо тры, а ў цябе?“

— А ў мяне сёньня шосты.

Барыс аднойчы запытаў Лёву: „Ці многа ты маеш?“

Лёва якраз гутарыў са сваім навічком.

— Вось адзін толькі,—паказаў ён на навічка.

— А яшчэ сам угаварваў спаборнічаць! — сказаў з дакорам Барыс і адышоўся. Лёва хадзіў да чысьцільшчыкаў, якія гадаваліся на вуліцах. Ён думаў: „Ня штука ўцягнуць у акцябраты дзяцей, якіх добра выхоўваюць, наша задача гэтых вырваць з вуліцы“.

Лёва знаёміўся з прадаўцамі газэт, дзе таксама шмат неарганізаваных дзяцей. Як чысьцільшчыкам, так і газэтчыкам Лёва, пазнаёміўшыся, апавядаў пра зьлёт, пра піонэраў, пра школу, кніжкі і пра акцябрат. Сваімі апавяданьнямі ён умеў зацікавіць слухачоў.

Ніколі ён не заклікаў дзяцей

адразу ісьці ў сваю групу, хоць і хацелася. Ён чакаў і не памыляўся.

Адзін з неарганізаваных казаў яму:—Лёва, я вельмі хочу быць акцябронкам,—другі прасіў яго завесьці да акцябрат.

— Добра, — казаў ён, — павяду і будзеш акцябронкам, але ў нас трэба вучыцца і працаваць.

— Буду ўсё рабіць, што робяць акцябраты, толькі завядзі.

— І ўжо тады Лёва вёў неарганізаваных на збор акцябрат.

Аднаго разу на зборы групы Барыс зноў запытаў Лёву:

— Ну, як у цябе з навічкамі—шмат ёсьць?

— Тры,—адказаў Лёва.

— А ў цябе?

— З сёньнешнім—дзесяць,—адказаў задаволены Барыс.

— Пакажы ты мне іх.

— Барыс дастаў з кішэні паперку і хацеў чытаць іх прозьвішчы.

— Не, не, пакажы мне іх у твар.

Барыс шукаў вачыма між дзяцей.

— Вунь мой навічок. Міхасём завецца.

— А яшчэ дзевяць дзе? — запытаў Лёва.

— Дык яны сёньня ня прышлі. Мая справа раз прывесьці, а там як сабе хочаш.

— А ў мяне тры і ўсе тут. Вось яны,—паказаў Лёва.

Барыс засьмяяўся:—ня нянь-





ка-ж я ім,—і пашоў распытваць іншых акцябрат.

Набліжаўся канец дагавору на соцспаборніцтва, і камісія вылучыла тых, хто лепш выканаў заданьне. Барыс меў 11, іншыя па 8. Менш за ўсіх меў Лёва.

Пасьля нарады камісія паведаміла вынікі і пераможцам быў Лёва. Дзеці з усіх бакоў закрычалі:

— Няправільна, у Барыса найбольш, а ў Лёвы ўсяго тры.

— Тады кіраўнік групы запытаў у Барыса:

— Дзе твае адзінаццаць навічкоў?

Ён старана шукаў вачыма, але на зборы іх ня было.

— Яны ня прышлі, а я іх уцягнуў у групу,—апраўдваўся Барыс, і толькі цяпер зразумеў, чаму калісь пытаў у яго Лёва пра гэта самае.

Так кіраўнік запытаў у кожнага. У каго застаўся з васьмі адзін, а ў некаторых ніводнага.

— Ну, дзеці, згодны з тым, што Лёва лепш за ўсіх выканаў заданьне? — запытала камісія.

— Згодны, але хай нам раскажа, як ён уцягваў, што ўсе яго навічкі ходзяць на зборы.

Лёва з ахвотаю расказаў.

— Шкада, што вы мяне раней не запыталі,—сказаў ён.

— Мы думалі, што ты ня ўмееш працаваць, бо ў цябе менш.

Дзеці выклікалі другую групу акцябрат на спаборніцтва. Але цяпер ужо не на тое, хто больш, а хто больш і лепш правядзе работу.



# ТРЫ БРАТЫ



**Верш С. Зак**
**Малюнкі Пашкевіча**

I

Жылі сабе тры браткі,
Слаўныя хлапчукі.

Слаўныя, але кволыя,
Сумныя, невясёлыя.

Елі браткі млява,
Гулялі мала.

Сяды-тады на вуліцы,
Усё больш да кніжкі
туляцца.

II

Прышоў меншы брат
у хату
Ды скардзіцца тату:

„Сьмяюцца з мяне дзеці,
Што я такі слабы:

Зьляпіў я меншую за
ўсіх
Сьнегавую бабу...“

III

Прышоў сярэдні брат
З дзіцячага саду.

„Бяда, кажа, тата:
Усе нашы дзеці

Могуць мяне
апярэдзіць“.

IV

Прышоў старэйшы брат
Са школы,
Сумны, невясёлы.





„Завёўся са мною
Ґрышка Ляшчына

І за хвіліну
Палажыў на сьпіну“.

V

Слухаў бацька,
Што казалі сыны.

Сядзеў ён хмуры.
Думаў:

„Добра, калі-б яны
Узяліся за фізкультуру“.

І купіў ён меншаму Янку
Дубовыя санкі.

І купіў ён сярэдняму
Грышку
Вострыя лыжы.

І купіў ён старэйшаму
Юзіку
Анькі навюсенькія.

## VI

На дварэ аж пад стрэху
Навеяла сьнегу.

Імчыцца наш Янка
На новенькіх санках.

Наляцеў на камень
Ды гоп!—даґары нагамі.

Устаў і сьмяецца.
Весела Янку
Езьдзіць на санках.



VII

Едзе Грышка да гаю,
З неба сонца зьзяе,

Грае на сьняжку,
На тонкім лядку.

Сьлізкія лыжы
Прасторы ліжуць.

Убачыла белка здалёк
Ды на елку—скок!—
Едзе госьць у лясок.



VIII

А Юзік пасьля школы
З гуртам вясёлым

На коўзанку мчыцца,
Толькі сьнег іскрыцца.

Коўзаецца Юзік
Па рэчцы і лузе.

IX

Нагуляўшыся,
хлапчаты
Бягуць весела дахаты.

І, расьсеўшыся як сьлед,
Уплятаюць свой абед.

Пасьля гэтакае працы
Будзе соладка ім спацца.

Так браткі не заўважалі,
Як часіны пралятали.

X

Прыбягае меншы брат,
гукае:

„Ой гульня-ж у нас
вясёлая якая!

Ужо мяне не бяруць на
сьмех,

Бабу сёньня зьляпіў я
Большую за ўсіх“.

XI

Прыбягае сярэдні брат
З дзіцячага саду,
Сьмяецца, рады:

„У нашым садку дзеці
Ужо ня могуць мяне
апярэдзіць!“

XII

Прыбягае старэйшы
брат са школы,
Шустры такі, вясёлы:

„Сёньня ўжо я Ляшчыну
Пакаціў за хвіліну!“

XIII

Слухае бацька сваіх
сынкоў,
Цешыцца з малайцоў,

Вочы ў іх вясёлыя,
Самі дзябёлыя,

Шустрыя, зграбныя.
З бяды сьмяюцца—
Нікому не паддаюцца—

Вось яны якія
Браткі тыя!

Сьмяецца і бацька,
Цяпер ён ня хмуры.

А хто ім памог?

—Фізкультура!

**(З украінскае мовы)**






**Апавяданьне А. Чаркяўскай** *)
**Малюнкі А. Тычыны**

Жаўнеры павялі Міколу не гасьцінцам, а бакавою дарогаю між чорных палос сьвежага ўзаранага поля.

Сабака асьмеліўся і бег амаль што сьледам. Мікола крадком азірнуўся назад і ўбачыў Жука. Твар у яго засьвяціўся ўсьмешкаю. Вернасьць сабакі ўсьцешыла яго. Ён азірнуўся яшчэ раз і дастаў за гэта прыкладам у сьпіну.

Увайшлі ў лес. Старыя елкі, шырокія пні сьсечаных дрэў, асінавы парасьнік...

Жаўнеры сталі,—яны ўвесь час трымалі вінтоўкі напагатове,— стаў і Мікола. Потым яны сышлі крыху ў бок і паставілі Міколу ля шырокага, высокага, у рост чалавека, пня, самі-ж адышлі на некалькі крокаў. Потым яны паднялі вінтоўкі і пачалі цэліцца ў яго. Мікола стаяў са зьвязанымі за сьпіной рукамі, твар у яго быў белы, змучаны, але галаву ён трымаў высока. Вочы яго блудзілі па сіні неба, па зелені лесу. Потым ён крыкнуў штосьці. Ня скончыў. Грымнулі два стрэлы.

Мікола паваліўся на бок, тварам да зямлі. Легіянэры падышлі да яго.

— Здэх, падла,—сказаў адзін,—штурхануўшы нагой Міколу.

— Трафне стшэлямы,—пахваліўся другі.

Потым яны ўскінулі вінтоўкі на плячо і пашлі спакойна, нібы з паляваньня. Мікола застаўся ляжаць у лужыне крыві.

Жук асьцярожна падышоў і лізнуў яму руку. Рука была цёплая. Жук лізнуў яшчэ раз, яшчэ, а потым забрахаў адрывіста: раз-два, раз-два, як быццам хацеў разбудзіць Міколу. Але той не варушыўся.

---

*) Канец. Пачатак гл. у № 10.

Тады Жук крануў Міколу лапаю. Чалавек ледзь чутна застагнаў і паварушыў пальцамі рукі. Сабака пільна наставіў вушы, схіліўшы галаву на бок.

Сонца паднялася высока і прыпякала бадзёрым веснавым цяплом. А Мікола ўсё ляжаў, як ляжаў. Толькі стогны раз-пораз рабіліся мацнейшымі.

Жук бегаў вакол, віляў хвастом, лізаў яму твар. Потым клаўся на зямлю і чакаў: калі-ж устане Мікола?

Рой сініх вялікіх мух налятаў на сьпечаныя бурыя камякі крыві і віўся з дзыканьнем над Міколай.

Жук устаў, уважліва з усіх бакоў абнюхаў хлопца і пабег з лесу. З першай-жа канаўкі ён смагла нахлябтаўся вады. Потым моцна пацягнуў носам паветра і пабег далей. Бег ён полем, нацянькі, мінаючы гасьцінец. Ляцеў так, як некалі ганяючы зайца. Адным махам, ня спыняючыся ў разгоне, пераскокваў ён праз канавы.

Каля сваёй вёскі ён сьцішыў бег і патрушыў павольным ходам. Сабакі, не пазнаўшы, спаткалі яго дружным брэхам. Але ён, нават не агрызаючыся, бег да свайго двара.



*Грымнулі два стрэлы...*

Дзьверы ў хату былі адчынены. У хаце ўсё было параскідана пасьляператрускі.

Рукі ў мацеры не паднімаліся прыбіраць. Яна сядзела на лаве з такім выглядам, як быццам сядзіць так ужо цэлы век, а ўсё ня можа з месца крануцца.

Суседка стаяла каля яе і апавядала штосьці ціхім голасам, але бадай што сама сябе слухала, бо ня відаць было, каб маці разумела што з яе апавяданьня.

Жук стаў на парозе. Ён ня віляў хвастом, а проста стаяў і глядзеў. Суседка заўважыла яго.

— Гляньце,—гэта-ж ваш Жук,— перапыніла яна гэтымі словамі сваё апавяданьне.



*Жук стаў на парозе.*

Зараз-жа усхапілася маці.

Жук-жа пашоў сьледам за Міколам. Сабака вярнуўся, а дзе-ж Мікола? Як быццам Жук мог адказаць ёй, яна спыталася:

— Жук! А дзе-ж Мікола, Жук? А?

Жук падышоў да яе, ткнуўся мордаю ў руку, потым зноў стаў на парозе. Ён коратка забрахаў некалькі разоў.

— Вось-жа ведае нешта,—замітусілася суседка—ну, як быццам сказаць што хоча. Жук, дзе Мікола, Жук? — дапытвалася яна.

Жук, азіраючыся, ці ідуць за ім сьледам, пашоў на двор, а з двара на вуліцу. Маці пабегла за сабакам, як толькі несьлі яе старыя ногі, але суседка затрымала яе.

— Ня ідзі адна. Можа Мікола там забіты ці паранены дзе ляжыць, што ты адна парадзіш. Пабягу і я з табою і дзеда свайго паклічу. У траіх весялей і сьмялей будзе ісьці.

Жук, адбегшыся, стаў і чакаў пакуль падыдуць людзі. Тады ён патрушыў наперад. За ім пасьпяшалася маці.

Убачыўшы здалёку постэрунак, яна закалацілася ў трывозе. Мусіць там яшчэ Мікола. Як выпрасіць, вырваць з рук катаў сына?

Гасьцінцам цягнуўся доўгі абоз.

— Глянь, едуць,—сказала суседка,—у той бок едуць... ці не

адступаюць толькі, хай іх усіх на дарозе паморак задушыць. Грыміць вось там... Мусіць цiснуць іх нашы...

Жук не павёў людзей гасьцінцам, зьвярнуў у бок і пабег сьцежкаю, пратаптанаю на ральлі.

Яшчэ здалёку ўбачыла маці сына. „Забілі!“ — адразу сьцісну лася сэрца. Сьпяшаецца, хапаецца iсьцi, рукі наперад выставіла, а ногі ня ідуць, падгінаюцца. Дапала да сына, схапіла яго за руку, рука цёплая, застагнаў...

„Жывы, жывы...“ — усьвядоміла. З радасьці ня можа яна гаварыць, вусны трасуцца, рукамі суседзяў да сябе клікае, каб хутчэй ішлі.

Дзед—сусед хутчэй за ўсіх да розуму прышоў.

— Трэба яго падняць як-небудзь і з гэтага месца адцягнуць у глыб лесу. Да ночы перачакаць прыдзецца, а тады перавязем яго ці ў сваю вёску, ці яшчэ куды...

Асьцярожна, як маглі, перацягнулі Міколу ў зацішнае месца ў лесе. Дзед з ручая вады ў шапцы прынёс. Абмыла маці параненаму твар, рукі, вады ў рот уліла. Праглынуў ваду. Апрытомнеў Мікола, толькі вельмі слабы быў, бо шмат крыві страціў.

Пашлі суседзі назад у вёску з тым, каб увечары сюды прыехаць і яды падвезьці. А Жук застаўся разам са старою маткаю пільнаваць Міколу.

Увечары перавезьлі Міколу яшчэ далей у глыб лесу. Дзед добра ведаў пушчу, добрую сьцяжынку ў ёй. Знайшоў за балотам сухую палянку. Там ёй склаў з вецьця будку — прытулак для параненага Міколы з маткаю.

Забягалі, часам, туды партызаны даведацца Міколы. Яны пацяшалі яго, што вызваленьне блізка, што чырвоныя наступаюць, што ўсе хлапцы ў пушчы, што ў вёсках мала хто застаўся.

Малады і моцны, як дуб, быў Мікола. Хутка выхадзіўся ад цяжкай раны. Калі-ж чырвонае войска вызваліла іхнюю вёску і пашло далей на захад, Мікола ў вёску не вярнуўся. Ён далучыўся да чырвонаармейцаў і забраў з сабою Жука.



*Маці дапала да сына, схапіла яго за руку.*

# НОВЫЯ ЗАКОНЫ АКЦЯБРАТ

(ПРОЕКТ)



**ДЗЕЦІ! Абгаварэце гэты проэкт законаў пра акцябрат і свае заўвагі прысылайце ў рэдакцыю часопісі „Іскры Ільліча" альбо ў Цэнтральнае бюро ДКО пры ЦК ЛКСМБ.**

## I. Склад акцябрацкіх груп і парадак прыёму ў групы

1. У акцябрацкія групы прымаюцца дзеці ад 7 да 10 год.

2. Пры залічэньні ў групы акцябраты знаёмяцца з законамі і работай акцябрат. Пасьля ва ўрачыстых абставінах набываюць права насіць акцябрацкую зорку. Урачыстага абяцаньня акцябраты не даюць.

3. Перавод з акцябрат у піонэры адбываецца пасьля таго, як акцябронку споўніцца 10 гадоў. Кожная група ўрачыста адзначае перавод акцябрат у піонэрскія атрады.

## II. Організацыйныя формы групы акцябрат

1. Групы акцябрат організуюцца толькі пры піонэрскіх атрадах і працуюць пад кіраўніцтвам атрадаў.

2. Група акцябрат павінна мець ня больш за 30 чалавек.

3. Кожныя тры групы акцябрат, што організуюцца пры піонэрскай базе, аб'ядноўваюцца ў базы акцябрат.

4. Групы акцябрат падзяляюцца на зорачкі, па 10 акцябрат у кожнай зорцы. Пажадана, каб зоркі падбіраліся з акцябрат, якія вучацца ў адной школьнай групе.

5. Зоркі акцябрат падбіраюцца па ўзросту: зоркі малодшых акцябрат (7—8 гадоў) і зоркі старэйшых акцябрат (9—10 год). Апрача таго, трэба, каб найбольш актыўныя і разьвітыя акцябраты былі пораўну разьмеркаваны ў зорках.

## III. Кіраўніцтва работай акцябрат

1. Для кіраваньня акцябрацкай групай ячэйка комсамолу вылучае комсамольца за павадыра групы акцябрат. Для дапамоті павадыру піонэрскія атрады вылучаюць піонэраў-комсамольцаў і актыўных піонэраў, якія працуюць павадырамі зорак.

2. Для кіраваньня работай базы акцябрат ячэйка комсамолу вылучае павадыра базы.

3. На чале акцябрацкай групы стаіць савет групы. У склад савету ўваходзіць: павадыр групы, яго памочнік, павадыры зорак і сакратар групы. Для дапамогі ў рабоце групы трэба запрашаць настаўнікаў, прадстаўнікоў ад бацькоў, рабочых і розных спэцыялістаў, напрыклад: па сьпевах, лепцы, фізкультуры, організацыі масавай работы і інш.

4. На чале базы акцябрат стаіць савет базы.





Савет базы праводзіць агульнае кіраўніцтва работай базы. Ён вызначае пляны работы, організуе работу, праводзіць контроль і падлік работы, на аснове пляну работ піонэр-базы і прымаючы пад увагу ўзрост акцябрат. У склад савету базы ўваходзіць: павадыр базы, яго памочнік, павадыры груп, запрошаныя для работы настаўнікі, прымацаваны ад партыйнай ячэйкі і па адным павадыру зорак ад кожнай групы. Для дапамогі ў рабоце базы запрашаюцца розныя спэцыялісты.

## IV. Законы акцябрат

Акцябраты зьяўляюцца членамі дзіцячай комуністычнай організацыі імя Ул. І. Леніна. Каб апраўдаць сваё імя, яны выконваюць такія акцябрацкія законы:

**1. Акцябраты памагаюць піонэрам і комсамольцам у змаганьні за справу Леніна—за соцыялізм.**

**2. Акцябраты — таварышы дзецям працоўных усяго сьвету.**

**3. Акцябраты—юныя бязбожнікі.**

**4. Акцябраты рыхтуюць з сябе здаровую і моцную зьмену піонэрам.**

**5. Акцябраты — прыклад для ўсіх дзяцей у вучобе і працы.**




# Ільнозавод

*Апавяданьне Ўс. ШЫДЛОЎСКАГА*
*Малюнкі ПАШКЕВІЧА*

Сьцёпка сядзеў на лаве каля акна і глядзеў, як пад павецьцю маці церла лён, што нядаўна сушыла на печы. Кастрыца, нібы пырскі срэбра, сыпалася з-пад церніцы і ўсьцілала каля матчыных ног зямлю. Сьцёпка доўга глядзеў, як маці жменю сухога вымачанага лёну перараб ляла ў ручайку рудай кудзелі.

Потым яна гэтую ручайку клала на дрывах ды ішла ў хату, брала з печы новую жменю лёну і несла пад павець. І зноў доўга яе церла языком гарбатай церніцы. Некалькі разоў пераварачвала ў руках, перацірала камель і верх, аж пакуль ня выходзіла жменя кудзелі.

На дварэ ападалі з рабін лісты і таксама, як і кастрыца з-пад церніцы, слаліся пластом на вільготнай зямлі. Вецер узрываў іх і пераганяў з аднаго месца на другое, прыціскаў да плоту, што каля студні, і зноў пачынаў разьмятаць у розныя бакі.

„Бедныя лісткі!“ думаў Сьцёпка.

Потым зноў глядзеў, як сыпалася з-пад церніцы кастрыца і як маці завіхалася церці лён.

„І няўжо нельга зрабіць так, каб гэты лён церці ня рукамі, ня церніцай, а як-небудзь інакш, па шмат адразу, а не па жмені“, новая думка ўзьнікала ў Сьцёпкі.

Адчыніліся хрыплыя дзьверы. У хату ўвайшоў бацька і суняўся каля стала.

— Аб чым, Сьцёпка, думаеш?—спытаў ён.

Сьцёпка адарваўся ад вакна і падбег да бацькі.

— Татачка, маме вельмі цяжка церці лён...—прагаварыў ён, але не дакончыў свае думкі.

— Дык ідзі памажы ёй, малайцом будзеш, і мама рада будзе.

— Я не аб гэтым... Я хачу спытаць, можа ты ведаеш, як

лягчэй церці лён... Памногу і хутка...

— Ого, аб чым ты думаеш?!— ласкава прагаварыў бацька і прайшоўся па хаце.

Потым яшчэ ласкавей зьвярнуўся да сына:

— Надзявай, Сьцёпка, шапку і пойдзем у школу. Сёньня настаўніца прыехала і казала, каб усе дзеці, канешне, прышлі ў школу.

— Сьцёпка стаяў сярод хаты і ня ведаў, што рабіць. Нечаканае бацькава паведамленьне аб тым, што ён сёлета пойдзе ў школу, было неспадзяваным і Сьцёпка ня ведаў: радавацца яму, ці сумаваць.

— Ну што-ж ты стаіш? Хадзем, я завяду цябе,—усьміхаючыся, глядзеў бацька на Сьцёпку.



*Сьцёпка сядзеў каля акна і глядзеў, як маці церла лён.*

— Я зараз,—вымавіў Сьцёпка і кінуўся на лаву шукаць сваю шапку. Хутка знайшоў яе сярод рознай вопраткі, надзеў на галаву і стаў побач з бацькам.

— Я гатоў...

Тады яны вышлі з хаты. На дварэ хоць і сьвяціла сонца, але было халаднавата. Пахла асеньняй сырасьцю. Ападалі лісты.

У школе настаўніца пытала ў Сьцёпкі:

— Колькі год, як зваць, хто бацька?

На ўсе пытаньні настаўніцы Сьцёпка адказваў бойка, сьмела, а калі настаўніца запытала:

— Хто твой бацька і дзе працуе?

Сьцёпка ня ведаў, што адказаць. Ён памаргаў сваімі вочкамі, паглядзеў на бацьку і запытаўся.

— Тата, хто ты?

Бацька засьмяяўся, засьмяялася і настаўніца, а потым запісала ў вялікую чыстую кніжку: „Селянін-бядняк, ад падаткаў вызвален, не колгасьнік“.

Многа дзяцей прышло ў школу. Настаўніца з усімі весела гаварыла і пытала ўсё тое, што і ў Сьцёпкі. Дзеці дзіўна паглядалі на яе і аб нечым ціха гутарылі.

— Заўтра ўсе прыходзьце на занядкі,—абвясьціла ў канцы настаўніца, раздаўшы ўсім кніжкі і сшыткі.

На другі дзень, калі яшчэ сонца не пасьпела паказацца з-за лесу, Сьцёпка ўстаў, абуўся ў лапці, пасьнедаў і пашоў у школу.

Раніца была досыць халодная. На стрэхах ляжаў белы іней. А неба было чыста-блакітнае і ніводнай хмаркі ня відаць было. Толькі веташок, які не пасьпеў да ўсходу сонца схавацца, цьмянай плямай-сярпом баязьліва глядзеў на зямлю. Каля школы пунсавелі чырваньню сьпелыя рабіны.

На занятках настаўніца доўга гутарыла з дзецьмі. Пытала, што яны летам рабілі. Расказвала, як трэба чытаць кніжкі, каб не псаваць вачэй і потым паведаміла, што іхная школа прымацавана да ільназаводу, што ў суседнім колгасе „Комунар“, за два кілёмэтры. Туды старэйшыя вучні будуць хадзіць вывучаць работу заводу, а таксама будуць прывучацца і самі працаваць.

Дзіўна было: чаму гэта трэба вучыцца ня толькі чытаць і пісаць, але і працаваць. Уперад гэтак ня было.

— Таму што наша школа політэхнічная,—тлумачыла настаўніца. — Мы павінны навучацца



*Бацька прывёў Сьцёпку ў школу.*

ня толькі па кніжках, але і на практыцы, павінны ўмець абыходзіцца з машынамі, працаваць на іх.

Неяк аднойчы пашлі ўсёй школай на ільназавод. Хоць далёкавата, але цікава. Больш усіх Сьцёпка цікавіўся.

Каля заводу ляжалі вялікія стагі вымачанага лёну. Лён гэты бралі рабочыя і насілі ў будынак, дзе ён сушыўся. Праз некаторы час, калі лён быў сухі, яго перапраўлялі ў другое аддзяленьне. Там ён ішоў у машыны, якія пераціралі яго, выбівалі кастрыцу.

А машыны вялікія і многа іх, з зубцамі нейкімі ды з калёсамі! Між зубцоў лён праходзіць і трэцца. Хутка трэцца лён, і вырастаюць стагі кудзелі. Любата... І людзей многа. Працаваць весела.

Сьцёпка ўспомніў, як яго маці церла лён пад павецьцю, і як увечары скардзілася, што баляць ад работы рукі.

„Тут мамін лён напэўна за гадзіну сьцерлі-б,“ думаў Сьцёпка, „і рукі не балелі-б“.

Круціліся зубчатыя машыны-церніцы. Трашчаў сухі лён, сыпалася кастрыца. Адкачваліся ад церніц тачанкі з кудзеляю. Дзеці з цікавасьцю разглядалі ільназавод.

Да Сьцёпкі, які стаяў збоку, падышла настаўніца і спытала:

— Аб чым, Сьцёпка, задумаўся?

Сьцёпка павярнуў галаву, глянуў на настаўніцу, але нічога не адказаў.

— Мусіць, цікава дужа? — прагаварыла настаўніца і пагладзіла Сьцёпку па галаве.

Потым зьвярнулася да ўсіх:

— Хадзем, дзеці, на двор, пагаворым аб тым, што бачылі.

Недалёка ад ільназаводу селі на бярвеньнях.

Сьвяціла па-асеньняму сонца. Лётала павуціна. Было прыгожа і цікава. Такія дні ўвосень рэдка бываюць!

Настаўніца гаварыла.

— Лён вельмі добра родзіць у Беларусі. Ён перапрацоўваецца на ільназаводах і ідзе на фабрыкі. Там з яго ткуць прыгожыя палотны. Ткуць ня так, як вашы мамы, а машынамі. Вы бачылі тут таксама машыны. Церніц вычасаных з яловага карэньня тут няма. Робіцца ўсё хутка, і рукі так не баляць. Машына ўсё робіць. А машыны магчыма ўжываць у вялікіх гаспадарках—колгасах. У колгасах магчыма будаваць і вось такія вялізарныя ільназаводы.

Сядзелі дзеці на бярвеньнях, слухалі настаўніцу. Былі вясёлыя і шчасьлівыя.

Сьцёпка думаў, гледзячы на льназавод: вось дзе тая хуткасьць і спрыт, аб якой ён марыў, бачачы, як маці рукамі ламала ў крывой качарэжыне-церніцы лён. Потым устаў і спытаўся ў настаўніцы, пераказаў ёй гэтую думку.

— А вось, калі ўсюды будуць колгасы, калі ўсе будуць у колгасах, тады цяжкую работу аддадуць машыне, а чала-



*Недалёка ад ільназаводу селі на бярвеньнях.*

век будзе толькі камандаваць машынай. Вось чаму мы павінны вучыцца быць камандзірамі машын, ведаць кожную шрубку, кожны цьвічок. На гэтым ільназаводзе мы і будзем вывучаць на практыцы работу машын.

Дзеці былі вясёлыя і шчасьлівыя. Сядзелі на бярвеньнях, слухалі настаўніцу.

Сьцёпка передумваў усё тое, аб чым гаварыла настаўніца. Роўненька лажыліся думкі ў галаве.

Ішлі дамоў. Сонца заходзіла чырвоным і неба было чырвонае. З балота дзьмуў вецер, уставаў туман. Прабіралі дрыжыкі. Тады беглі бягом. А настаўніца заставалася з-заду.

Дома Сьцёпка вясёлы і радасны расказваў тату і маме пра ільназавод, расказваў цікава і шчыра.

— А машыны якія, а хутка як!.. У-у-у!.. гудуць...

Потым яго голас перамяніўся.

— Тата, татка!

— Чаго?

— А ведаеш, ад чаго машыны прыгожа гулі?

Бацька маўчаў.

— Таму, што колгасьнікі там усе, татка. А мы... Мы ня можам мець такіх машын, вось таму і прыходзіцца маме ўсё рабіць рукамі...

Маўчаў бацька. Маці таксама сядзела, абапёршыся рукамі на стол. Думала.

Асеньняя ноч прыветліва пазірала ў вокны. Праз пабітую шыбу ўрываўся з двара вільготны халадок.

Бацька загаварыў ціха, паволька, але шчыра:

— Заўтра мы таксама будзем колгасьнікамі.

Пераліваласся зорамі ноч. А Сьцёпка думаў аб ільназаводзе.



# ЛЫЖКА мёду



*Апавяданьне Л. Ч.*
*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Сёньня і дзеці атрымалі нарад на работу.

Будуць таптаць сена. Сена зялёнае, сухое, ні разу дождж на яго ня пырснуў.

Колгасьнікі сёньня будуць вазіць яго.

Сабралася цэлая грамада дзяцей. Як бегаюць асобнымі табункамі, дык здаецца і ня шмат іх, а сабраліся разам — цэлае войска.

Прыцягнуліся і малыя—трохгодкі, пяцігодкі, але прышлі яны без нараду, дзеля цікавасьці і забавы.

Гумно, якое будзе цяпер колгаснаю сяньніцаю, чыста вымецена і шырока расчыніла свае вароты. На дварэ горача, сонца пячэ, а ў сярэдзіне сяньніцы прахалодліва.

Пакуль прыедуць першыя вазы з сенам, дзеці завялі гульню. Набегаліся ў „квача“, пачалі хавацца.

У заднім кутку гумна раступырылася асець, дзе раней сушылі хлеб перад малацьбой. Ня выбіваў цэп зярнят з нявысушанага коласа. Аджыла сваё асець. Прышла на зьмену цапу колгасная малатарня.

Вельмі добра хавацца за асецьцю. Пакуль той, хто шукае, зойдзе з аднаго боку, можна колькі разоў вакол абегчы, хіба здагадаецца той і неспадзявана паверне насустрэч і закрычыць пераможна:

— Пятрусь, Марыля, Валодзька, бачу, бачу, не хавайся!

А вось Ляксейка схаваўся так, што знайсьці яго ня могуць. Шукалі, шукалі... Гукнуць. „Гу!“ — адгукаецца каля асеці, а дзе—невядома. Нарэшце здагадаліся. Залез Ляксейка ў самую печ і хоць у попеле вы-

качаўся, затое ад усіх дольш хаваўся.

Вылез Ляксейка з-пад печы ў самую пару. Да сяньніцы пачалі пад'яжджаць вазы з сенам.

Цяпер уся гульня на бок. Трэба за работу брацца. Ну і вясёлая будзе работа!

Адзін за адным уяжджаюць вазы ў глыб гумна. Скіне першы воз сена, ад'яжджае, на яго месца становіцца другі.

Скінулі сена з вазоў. Новае накладваць паехалі. Цяпер працуйце, дзеткі, тапчэце сена.

Пакуль што і малалеткі не астаюцца. Сена яшчэ нізка. Адна любата па ім куляцца. І яны крычаць:

— І мы топчам... І мы топчам...

Большыя вельмі хочуць паказаць, што яны ня гуляюць. Спачатку ходзяць па сене важна, як буслы, а потым і яны ня вытрымліваюць. Ляксейка дае кулька ўсім на зайздрасьць. Ня спыняючыся, ён перакульваецца некалькі разоў ад сьцяны да сьцяны.

Другая чарада вазоў скінула сена. Значна вышэй лягло яно. Здаецца яшчэ больш тонуць у ім ногі.

Рухавая Манька раней за ўсіх прыдумвае новую забаву. Як кошка, чапляючыся за бярвеньне, лезе яна па сьцяне на бэльку. Потым крычыць уніз з сярэдзіны бэлькі:

— Сьцеражэцеся! Лячу ўніз!..

А хіба Валодзька ня ўмее лазіць? Ён-жа на самую высокую ігрушу ўзьлезе і не баіцца.

У момант і ён ужо на бэльцы і стрымгалоў ляціць уніз. За ім Ляксейка, Андрэй, Аксенька. Усім ляцець хочацца.

Малы Сяргейка бярэцца лезьці на сьцяну. Хочацца і яму раскінуць рукі, як крыльле, і паляцець уніз. Але ніяк ня ўзьлезе. Ляксейка яго брат, і ён прыходзіць на дапамогу. Ён падсаджвае і падтрымлівае яго зьнізу, а Манька цягне яго за рукі, стоячы на бэльцы.

Глянуў уніз Сяргейка. Страшна. Ня хочацца і птушкай быць. Ці ня лепш той самай дарогай уніз спусьціцца. Але і ён растапырвае рукі і, заплюшчыўшы вочы, кідаецца ўніз. Вух! І прыемна, і страшна.

Яго равесьнікі з паважаньнем глядзяць на адважнага лятуна. Некаторыя пробуюць паставіць вагу на першае бервяно, але нічога з таго ня выходзіць — ня ўзьлезьці на бэльку. А большыя ўжо ня хочуць малых цягаць туды.

Манька стала пасярэдзіне



бэлькі і азіраецца па бакох. Потым яна пытаецца:

— А чаго гэта нас сюды паклікалі? Ці гуляць, ці сена тап таць?

— Во! А ты-ж першая палезла на бэльку. Зноў стараннe дыбаюць па сене дзеці, хоць ад гэтага ня больш карысьці, як ад іхняй гульні на сене. І гуляючы, яны добра ўтапталі сена.



Звон на абед. Чырвоныя, ускудлачаныя, з былінкамі сена ў валасох, на вопратцы, вылазяць дзеці на двор. Сонца рэжа ім вочы. Меншыя коцяцца да хат. Дужа захацелі есьці.

Пасьля перапынку зноў зьбіраюцца дзеці ў пуню. Гультаяватыя гатовы і не пайсьці. Улетку дзецям дарога скрозь вольная—у любы бок падайся—знойдзеш занятак. Але Аксенька з Валодзькам вядуць улік работы старэйшых, і сорамна адмаўляцца.

Пад вечар сена наклалі аж па самую бэльку. Малым ужо ня ўзьлезьці так высока, а дарослыя сварацца на іх, што, пробуючы лазіць, яны толькі сьцягваюць сена ўніз; і малыя распаўзаюцца па хатах.

Надакучыла дыбаць па сене. Кожны выконвае заданьне, як умее. Ляксейка сваім куляньнем пластуе сена ня горш чым ходзячы. Манька, як птушка-падлетак, пырхае па сене, а Раман, самы меншы з усёй групы старэйшых дзяцей, поўзае ракам і бубніць, як чмель: бу-бу-бу.

Ён удае нейкага самому невядомага зьвера.





Першым вылазіць Ляксейка. Ён падстаўлае свой сподачак і мёд лыжкі жоўтым залатым цурком паволі сьцякае на сподак.

Прыехаў астатні воз. Нарэшце праца скончана. Дзеці зьяжджаюць уніз па адным і з подзівам глядзяць, як высока яны сядзелі і колькі сена утапталі за дзень. На сёньня хопіць.

— Ну,—кажа старшыня колгасу, — за работу заплачу вам мёдам. Хадзем на пчэльню. Нясеце з сабой кубачкі ці сподкі.

Сёлета год мёдны. Будзе што здаць коопэрацыі і на свае патрэбы можна троху пакінуць.

Дзеці саромяюцца, каму першаму падыходзіць.

— Ідзі ты, Манька...

— Не, не хачу, ты ідзі...

І кожны атрымлівае сваю запрацаваную долю. Ідуць дамоў здаволеныя. Летась ня кожнаму даводзілася ласавацца мёдам, бо ці магла бедната завадзіць пчолы, калі кожны паасобку вёў сваю гаспадарку. Пчэльня перайшла да колгасу ад кулацкае гаспадаркі. Папоўнілі яе вульлі з абагуленых гаспадарак. Дружна насілі мёд пчолы.

Насустрач дзецям бягуць меншыя браты і сёстры.

— Дай, дай мёду,—крычаць яны,—і мы-ж тапталі...

Трэба падзяліцца.



# Савецкая кватэра



**Апавяданьне Я. Маўра**

**Малюнкі А. Тычыны**

1.

Ня надта добрая хата ў Славы і Ліны. Дом хоць і мураваны, але малы і стары. Дах дзіравы, латаны. Плот паламаны. Двор няроўны, гразкі, засьмечаны. Але нішто—прывыклі Слава і Ліна і нават ахвотна гуляюць і поркаюцца на сваім двара.

І пакой няцікавы. Малы, нізкі, халодны, вокны малыя. Вадаправоду няма; трэба здалёк прыносіць ваду. Асьвятляюцца маленькай лямпкай. Нязграбная печка мала грэе, а толькі дыміць. Але і пакой свой любяць Слава і Ліна, бо жывуць тут увесь свой век і лепшага ня бачылі.

Часам нудна было Славу і Ліне. Татка працуе на фабрыцы; мамка заклапочаная і занятая гаспадаркай. А яны адны у халоднай хаце сядзяць.

Але вось аднаго разу татка адвёў іх у дзіцячы сад. Добра там, весела.

Толькі хадзіць трэба далёка. Асабліва дрэнна, калі холад і дождж.

2.

І вось раптам здарылася няшчасьце.

Зьявіліся нейкія людзі і кажуць:

— Рыхтуйцеся. Праз тры дні вы павінны пакінуць кватэру.

Дзеці ў сьлёзы.

— Куды мы дзенемся?



А татка ўсьміхаецца і кажа:

— Лепшая кватэра будзе.

Пад'ехаў грузавік. Паклалі туды ўсю маемасьць, наверх пасадзілі Ліну і Славу і паехалі далёка на новую кватэру. Цікава і весела было Ліне і Славу.

Але калі прыехалі, дык зноў у сьлёзы: кватэра была горшай за першую. Драўляная пахілая халупа, цёмная, брудная.

— Як-жа-ж мы будзем тутака жыць? Завошта нас выгналі адтуль?

А мамка ўсьміхаецца і кажа:

— Нішто, пацерпім. Лепшая будзе.

А адкуль яна будзе? Вось казаў татка, што лепшая будзе, а перасялілі ў горшую.

3.

Дрэнна ў новай кватэры. Нават сядзець у ёй няма ахвоты. Хоць бы паглядзець, каго пасадзілі ў іхнюю ранейшую кватэру. Пабеглі туды, глядзяць, — а там гармідар: грукат, пыл, ламаюць дах, сьцены, печкі. Ды разам захапілі яшчэ некаторыя маленькія дамы.

Сумна зрабілася Славу і Ліне:

— Нас выгналі, а самі разбурваюць.

Усё разбурылі нядобрыя людзі. Ды яшчэ высокім плотам адгарадзілі, каб ня відаць было, што яны там нарабілі.

Але праз некаторы час пацягнуліся туды грузавікі, фурманкі з каменьнем, з цэглаю, з пяском, з бочкамі цэманту, з жалезам, з бярвеньнямі. А назад вывозяць сьмецьце markdownознае, зямлю.

Потым пачалі капаць глыбокія равы, ямы. Усю плошчу перакапалі.

„Мусіць, нешта будаваць будуць",—здагадаліся Слава і Ліна.— „Толькі чаму яны тут захацелі будаваць і нас выгналі"?

4.

Пад восень зноў захацелася паглядзець на сваё роднае месца. Прыбеглі.

А там уздымаюцца вялізныя цагляныя сьцены—мусіць, паверхаў шэсьць. Вакол іх—рыштаваньні; па іх бегаюць сотні рабочых. Вежы нейкія ўздымаюцца, колы, машыны і ўсё грузавікі ды фурманкі.

— Відаць, фабрыка нейкая будзе,—сказала Ліна.

— Але,—згадзіўся Слава.—Таму і нас выгналі: фабрыка важней за хату.

Ой, як дрэнна было ўзімку на новай кватэры! Цесна, цёмна, холадна. Нават дровы ня было куды скласьці. Тут-жа ў хаце іх і складалі.

І ў дзіцячы сад Слава і Ліна хадзілі ня кожны дзень, бо далёка было. Часта ўспаміналі яны сваю ранейшую кватэру. Якой добрай, цёплай здавалася яна цяпер!

Але татка з мамкай не сумавалі. Нават весялейшыя былі.

— Хутка новая кватэра будзе,—казалі яны.

Але Слава і Ліна ня радаваліся: яны баяліся, што і зноў новая кватэра будзе горшай.



5.

І вось аднаго разу зноў пад'ехаў грузавы аўтомобіль. Зноў паехалі Слава і Ліна на новую кватэру.

І пад'ехалі... да тэй самай будыніны, што пабудавалі на месцы іх хаты!

Дзеці вылупілі вочы.



— Няўжо-ж сюды?—прамовілі яны.

— Сюды, сюды,—весела казала маці.

І па асфальтавай пляцоўцы ўвайшлі яны ў бліскучы палац, падняліся на чацьверты паверх і там іх прывялі ў новую кватэру. Пакой высокі. Сьцены бялюткія. А вакно бадай што на ўсю сьцяну.

— Ды гэта-ж дзьверы, а не вакно!—крыкнуў Слава, падбег, расчыніў і апынуўся на балконе. А адтуль відаць увесь горад. Са столі спускаецца электрычная лямпа, а да сьцяны прыладжана нейкая гармонь.

— Што гэта такое?

— Гэта заместа печкі. Награецца гарачай вадой. А ваду гоняць з аднаго катла на ўвесь дом.

А тут мы будзем спаць!—крычала Ліна з другога пакою.

А далей—цёплы, чысты катушок. Там трубы, кранты і белая ванна.

— Можа тут і мыцца можна, як у лазьні?—спыталася Ліна.

— Нават лепш. Мыйся і купайся колькі хочаш,—засьмяялася маці.—Тут і халодная вада і гарачая.

Побач яшчэ катушок—чыстая і цёплая ўборная.



Вось дык выгода! Усё дома!—крыкнуў Слава і ад радасьці перакуліўся на чыстай каляровай падлозе.

Потым — невялічкая кухня. Там толькі крант з вадой ды прыпечка з нейкімі кнопкамі. Ні печкі, ні грубкі ніякай няма.

— Як жа-ж мы будзем тут гатаваць? — спыталася Ліна.

— Ды мала нам прыдзецца тут гатаваць, — адказвае маці.— Харчавацца будзем у іншным месцы. А сёе-тое падагрэць ці згатаваць можна вось тут на электрычнай плітцы.

6.

— Ну, пойдзем абедаць,—сказала маці.

— Куды?

— А вось убачыце.

Вышлі ў калідор, завярнуліся налева, спусьціліся па сходах уніз і апынуліся ў вялікай, прыгожай сталовай.

Для дзяцей нават былі асобныя маленькія сталы-крэслы. Вельмі спадабалася Славу і Ліне.

— Мы заўсёды тут будзем абедаць?—спыталіся яны ў мамы.

— Ня толькі абедаць, але і сьнедаць і вячэраць можам. А калі захочам, дык можам узяць да сябе ў пакой.

Выбеглі дзеці на двор. Там чыста, прыгожа, маленькі садок і нават куча пяску для дзяцей насыпана.

Слава і Ліна пачалі ўспамінаць:

— А тут стаяла наша хата.

— А там была яміна, балота.

— А там стаяў хлеўчык.

— А там была куча сьмецьця.

Нават ня верыцца, што ўсё гэта сапраўды тут было.

Цяпер зусім-зусім непадобна.

— А ў дзіцячы сад мы будзем хадзіць?

— Будзеце, будзеце,—адказала маці.—Калі хочаце, я вас зараз-жа адвяду.

— Пойдзем, пойдзем!—заскакалі Слава і Ліна і кінуліся апранацца.

— Дзе мае галёшы? Дзе маё паліто?

Ня трэба, так пойдзем,—сказала маці.

— На вуліцы-ж дождж!

— Нічога.

Яны спусьціліся на ніжні паверх і знайшлі там дзіцячы сад, дзе былі ўсе дзеці гэтага дому.

Толькі сад гэты быў куды лепшы за той, у які яны раней хадзілі.

## 7.

Сьветла, прытульна ў пакоі. У такі час яшчэ больш бярэ ахвота пачытаць кніжку, паглядзець часопісь.

Вось трапілася дзецям у рукі часопісь, а ў ёй малюнак і пад ім подпіс:

„Рабочая сям'я, выселеная з сваёй кватэры“.

— Гляньце, гляньце!—узрадаваліся Слава і Ліна.—Таксама, як і мы. Вось і яны атрымаюць такую самую кватэру!

Татка сумна ўсьміхнуўся і сказаў:

— Тое, ды ня тое. Гэта-ж ня ў нас, а заграніцай. Там іх выкінулі на вуліцу і ніякай кватэры не дадуць, пакуль рабочыя не адбяруць. А дзеля гэтага ім трэба яшчэ шмат змагацца са сваімі капіталістамі. Мы павінны гэта памятаць і ўсяляк памагаць сваім братом.

* * *

Шмат такіх кватэр у нас пабудавана. Яшчэ больш будуецца і яшчэ больш будзе пабудавана. Ня толькі ў гарадох, але і ў колгасах, і ў саўгасах.

Але пакуль што для ўсіх не хапае.

Дзеля гэтага трэба спачатку пабудаваць шмат заводаў. А заводы дадуць матар'ялы і прылады для пабудовы такіх дамоў.

Тады мы ўсе будзем мець савецкія кватэры.

А каб хутчэй гэта было, мы ўсе, і старыя і малыя, павінны прымаць шчыры ўдзел у працы.

## ПАІЛКА ДЛЯ ХАТНІХ ПТУШАК

Прымацуй дзе-небудзь да сьцяны дзьве вяровачкі. Паглядзі, як гэта зроблена на малюнку. Пастаў на зямлю каля сьцяны талерку з вадою. Вазьмі бутэльку, налей у яе даверху



вады, заткні далоньню рылца і перавярні бутэльку ўверх дном. А цяпер прымацуй перавернутую бутэльку вяровачкамі і апусьці рылца ў талерку. Але зрабі так, каб рылца было ў вадзе, а да дна талеркі не даставала. Прымі руку. Вада з бутэлькі ня выльлецца. Паілка гатова. Падыйдуць куры, гусі, качкі. Адап'юць крыху вады. У бутэльку пройдзе некалькі пузыркоў паветра, а ў талерку выльлецца крыху вады. Такім чынам, у птушак будзе заўсёды чыстая вада.

## НАША ПЕРАПІСКА

### Выпісваем 184 экзэмпляры часопісі

6-я вопытна - практыкавальная сямігодка г. Віцебску выпісвае 184 экзэмпляры часопісі „Іскры Ільліча“. Па раскладу нам было вызначана заданьне ў сто экзэмпляраў. Мы, такім чынам, сабралі падпіскі больш аж на 84 экзэмпляры.

У нашай школе часопісь чытаецца на лекцыях. Мы ўсе задаволены „Іскрамі Ільліча“. Будзем і далей пашыраць сваю часопісь. Мы выклікаем усе школы г. Віцебску ўзяць з нас прыклад.

Дзяткор А. ГУРЭВІЧ.

### Мы ўсе—акцябраты

У падарунак юбілею часопісі 2-я група 20 ай Віцебскай школы ўступіла ў акцябраты. Усе вучні выпісваюць сваю часопісь „Іскры Ільліча“.

Акцябраты г. Віцебску! А што вы зрабілі, каб пашырыць як мага больш лік часопісі сярод меншых дзяцей? Бярэце прыклад з 2-ой групы 20 ай школы.

Вучань М. БАРЭНБАЎМ.

### Акцябраты дапамагаюць у рабоце

Пры базе шчотачнікаў (Менск) ёсьць акцябрацкая база. Кожная група акцябрат прымацавана да піонэрскага атраду. Піонэры разам з акцябратамі рыхтуюцца да юбілею дзіцячых газэт і часопісі. Акцябраты выпісваюць часопісь „Іскры Ільліча“ і выпускаюць самі акцябрацкую насьценную газэту.

Дзяткор А. ЦЫРУЛЬНІКАЎ.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: У. РАЦЭВІЧ. А. ЯКІМОВІЧ.

